© PDF: Kamunikat.org 2018
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

наша свабода

№72(159) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

13 ЛІПЕНЯ 2001 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ

**ПАДПІСКА НА НАШУ СВАБОДУ!**

Каб не шукаць кожную раніцу нашу газету ў шапіках, падпішыся на яе цяпер! Падпіска на НАШУ СВАБОДУ магчымая праз пошту! У любым аддзяленні сувязі патрабуйце падпісны каталог з індэксам НАШАЙ СВАБОДЫ.

Наш падпісны індэкс –

**63478**

## Пашпарт свабоды для Юрыя Бандажэўскага

Былы рэктар Гомельскага медінстытута прафесар Юрый Бандажэўскі, асуджаны на 8 гадоў турэмнага зняволення, стаў уладальнікам еўрапейскага пашпарта свабоды. Бандажэўскі стаў 25-м чалавекам на планеце, які атрымаў пашпарт свабоды, што дае права свабодна перамяшчацца па Еўропе і выбіраць у якасці месца жыхарства любую краіну кантынента.

Акрамя таго, заяву ў сувязі з асуджэннем Бандажэўскага прыняў Міжнародны сацыяльна-экалагічны саюз. Гэтая арганізацыя аб'ядноўвае сотні грамадскіх фарміраванняў, сур'ёзныя навуковыя арганізацыі, а яе сустаршынямі з'яўляюцца вядомыя расійскія вучоныя Свет Забелін і Леанід Фёдараў. У заяве асуджаецца пераслед вучоных-радыёлагаў у Беларусі.

*Заканчэнне на стар.3*

## За адзінага кандыдата

Аргкамітэт Кангрэса дэмакратычных сілаў, які пройдзе ў Мінску ў канцы ліпеня-пачатку жніўня, «лічыць сітуацыю, што склалася ў выбарчай прэзідэнцкай кампаніі, вельмі небяспечнай для лёсу Беларусі». Аб гэтым гаворыцца ў заяве, распаўсюджанай 10 ліпеня за подпісам старшыні аргкамітэта, намесніка старшыні Партыі БНФ Юрася Хадыкі.

«Раскол электарату ў выніку вылучэння некалькіх дэмакратычных прэтэндэнтаў непазбежны і прывядзе толькі да перамогі існуючага рэжыму, – гаворыцца ў заяве. — Працэс вылучэння адзінага кандыдата нельга зацягваць да бясконцасці, улічваючы абмежаваныя магчымасці дэмакратычных сілаў у інфармаванні грамадства».

Калі група кандыдатаў ад шырокай грамадскай кааліцыі не зможа дамовіцца аб адзіным кандыдаце, аргкамітэт кангрэса, як сцвярджае яго старшыня, «будзе вітаць пагадненне хаця б двух прэтэндэнтаў на карысць аднаго з іх». «Мы поўныя рашучасці падтрымаць такі механізм вылучэння адзінага кандыдата, які будзе ўлічваць рэальны расклад сілаў у дэмакратычным лагеры, — гаворыцца ў заяве. – 15 ліпеня 2001 года – апошняя дата, да якой мы будзем чакаць добраахвотнага рашэння дэмакратычных кандыдатаў. Паміж 29 ліпеня і 5 жніўня адбудзецца Кангрэс дэмакратычных сілаў, дзе будзе падтрыманы адзіны кандыдат».

**БелаПАН**




Актывісты студэнцкага руху «Зубр» правялі несанкцыяваную акцыю каля следчага ізалятара ў Жодзіне, дзе адбывае трохмесячны арышт праваабаронца і журналіст, дэпутат Вярхоўнага Савета Валерый Шчукін. Там са Шчукіным абыходзяцца вельмі жорстка. Некалькі дзесяткаў чалавек у майках і са значкамі руху «Зубр» прайшлі па цэнтральных вуліцах Жодзіна да ізалятара, дзе адбылася невялікая тэатралізаваная акцыя. Перад будынкам ізалятара зубраўцы скандзіравалі лозунг «Зубры – за свабоду», а пасля распісалі сцены ізалятара словамі «Свабоду Шчукіну!». Паколькі акцыя адбылася вельмі хутка, абышлося без затрыманняў.

# Выбары без міліцыі?

11 ліпеня Цэнтрвыбаркам правёў чарговую прэс-канферэнцыю па ходзе передвыбарнай кампаніі. Аднак гэтым разам да журналістаў замест старшыні ЦВК Лідзіі Ярмошынай прыйшоў яго-ны сакратар Мікалай Лазавік.

Цікавая заява прагучала ад яго наконт таго, як адбываецца збор подпісаў за вылучэнне патэнцыйных кандыдатаў на прэзідэнта, які цягнецца з 21 чэрвеня па 21 ліпеня. М.Лазавік заявіў, што супрацоўнікам праваахоўных органаў дадзена ўказанне не чыніць перашкодаў збору подпісаў за прэтэндэнтаў на пасаду прэзідэнта. Маўляў, пасля гутаркі з Ярмошынай міністр унутраных справаў Уладзімір Навумаў адмыслова праінструктаваў асабовы склад.

Па-першае, Цэнтрвыбаркам такім чынам прызнаў, што такія факты супрацьпраўных дзеянняў з боку міліцыі былі, пра што багата паведамлялася ў прэсе, але ЦВК маўчаў. Па-другое, цяпер усё выглядае так, што проста напрыканцы кампаніі па збору подпісаў улады вырашылі зрабіць ласку, і праваахоўныя органы цяпер ініцыятыўным групам замінаць не будуць.

Аднак улады могуць і аказваюць ціск на зборшчыкаў подпісаў за альтэрнатыўных Лукашэнку кандыдатаў і іншым чынам, задзейнічаўшы так званы адміністрацыйны рэсурс. Як, напрыклад, заявіла прэс-служба Сямёна Домаша, «калі ў самым пачатку кампаніі збору подпісаў улады выбралі тактыку адкрытага ціску (тут можна згадаць шматлікія выпадкі, калі сяб-раў ініцыятыўнай групы С.Домаша затрымлівалі, знішчалі падпісныя аркушы, а таксама аблогу рэдакцыі крычаўскай газеты «Вольны горад», дзе часова размясціўся штаб Сямёна Домаша), то цяпер, відавочна, вырашана змяніць тактыку». Цяпер маюць месца факты прыхаваных рэпрэсіяў.

Адзін з захадаў – нацкоўванне на кіраўнікоў рэгіянальных ініцыятыўных групаў усемажлівых кантрольных органаў. Напрыклад, у Радуні, што на Гродзеншчыне, зборам подпісаў за Домаша кіруе галоўны ўрач радуньскай пасялковай бальніцы Станіслаў Леўчык, дэпутат Вярхоўнага Савета 13 склікання. Нядаўна мясцовыя ўлады зініцыявалі тэрміновы прыезд у клініку рэвізійнай камісіі. Неафіцыйна з выканкама перадалі, што заданне ў камісіі адно – «дачапіцца і выгнаць з працы».

На прэс-канферэнцыі Мікалай Лазавік гаварыў толькі пра адныя канкрэтныя парушэнні пры збору подпісаў. Маўляў, сябры некаторых ініцыятыўных групаў збіраюць іх, прадстаўляючыся даверанымі асобамі Лукашэнкі. Тым часам скандал здарыўся якраз у лукашэнкавай ініцыятыўнай групе.

Аляксандр Валчанін, які ачольваў ініцыятыўную групу па збору подпісаў за вылучэнне Аляксандра Лукашэнкі кандыдатам у прэзідэнты Беларусі ў Жодзіне, склаў з сябе гэтыя паўнамоцтвы. Прычына – ціск з боку мясцовай «вертыкалі».

*Заканчэнне на стар.3*

## Старшынём ПА АБСЕ пераабраны Севярын

Былы міністр замежных справаў Румыніі Адрыян Севярын большасцю галасоў пераабраны старшынём Парламенцкай асамблеі АБСЕ. На сесіі ПА АБСЕ была прынятая рэзалюцыя аб СМІ са згадкай і пра Беларусь, дзе «незалежныя мас-медыа або забараняюцца, або функцыянуюць у цяжкіх умовах».

## Акцыя фашыстаў

Як паведамляе Радыё «Рацыя», жыхары Лёзна на адным з найвышэйшых будынкаў горада ўбачылі 10 ліпеня фашыстоўскую свастыку, намаляваную на сцягу. Ён правісеў паўдня, а затым быў зняты супрацоўнікамі міліцыі і камунальных службаў.

## «Маці» ў Еўрапарламенце

Карціна беларускага мастака Віктара Шматава «Маці» выстаўленая ў адным з холаў галоўнага будынка Еўрапейскага парламента ў Брусэлі. Мастак падарыў сваё палатно гэтай міжнароднай структуры падчас арганізаванай у ЕП леташняй вясной выставы жывапісу «Чарнобыль вачыма беларускіх мастакоў».

## У Магілёве зноў «Магутны Божа»

12 ліпеня ў Магілёве ў Палацы культуры і тэхнікі «Хімвалакно» адбылося адкрыццё IX Міжнароднага фестывалю духоўнай музыкі «Магутны Божа».

У праграме фестывалю – конкурс вакалістаў і хораў, канцэрты арганнай і харавой музыкі ў касцёле Святога Станіслава і іншыя музычныя мерапрыемствы.

## Канферэнцыя мэраў

Напрыканцы гэтага года ў Мінску пройдзе буйная міжнародная канферэнцыя па праблемах гарадоў. Падчас яе будуць абмеркаваныя тыповыя гарадскія праблемы. Удзел у канферэнцыі возьмуць мэры гарадоў-пабрацімаў Мінска, шэрагу гарадоў і сталіц СНД, абласных цэнтраў Беларусі.

## 3.000 рублёў за прыватчэк

Савет міністраў прыняў пастанову, паводле якой кошт аднаго нявыкарыстанага імяннога прыватызацыйнага чэка «Маёмасць» стаў раўняцца 3.000 беларускіх рублёў. 427 мільёнаў такіх чэкаў было выдадзена 5 мільёнам беларусаў. Толькі 227 мільёнаў абменена на акцыі прадпрыемстваў.

**НАДВОР'Е**




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1420**

# Главком NATO посетит Беларусь

## *Гуманитарная акция США способна улучшить имидж NATO*

Как известно, в 20-х числах июля Беларусь должны посетить президенты России и Украины, которые примут участие в «Славянском базаре» в Витебске. А до этого в Минск приедет китайский лидер Цзян Цземинь. Именно эти политические события преподносятся главными официальными СМИ.

Однако, ожидается еще одно событие, которое может существенно поколебать у белорусских граждан недобрый имидж *NATO* и США, создаваемый местной пропагандой. Буквально накануне встречи славянских лидеров в Витебске, 23 июля, в Беларусь приедет верховный главнокомандующий объединенными вооруженными силами *NATO*, а также главнокомандующий европейскими вооруженными силами США генерал Джозеф Ролстон.

По неофициальной информации источника, близкого к министерству обороны Беларуси, этот визит главкома организован американской стороной и будет носить сугубо гуманитарный характер. Ожидается торжественное открытие в Гомеле центра переливания крови при больнице скорой помощи, оснащенного при финансовой поддержке США. Стоимость уникального медицинского оборудования оценивается в не один миллион долларов. Очевидно, что эта масштабная гуманитарная акция США на фоне нарастающей антизападной кампании и шпиономании, которую осуществляет правящий режим в Беларуси, будет иметь должный эффект.

Вместо натовских бомбардировок и так называемых управляемых кризисов низкой интенсивности да гуманитарных интервенций, которыми любят пугать нынешние руководители Беларуси, граждане получат в качестве гуманитарной помощи современный госпиталь, где смогут лечиться потерпевшие от чернобыльской катастрофы.

Пока неизвестно, пройдут ли, и с кем, какие-либо встречи у генерала Джозефа Ролстона во время его первого визита в Беларусь. Лишь министр обороны генерал Леонид Мальцев решил вновь поднять вопрос об отдельных для Беларуси гарантиях безопасности, которые должен дать Североатлантический альянс. Российских гарантий почему-то недостаточно.

Понятно, что для нынешнего ее руководства, видимо, такого рода визит представляется не очень желательным. Вот если бы он демонстрировал уровень двусторонних отношений, которые никак нельзя назвать нормальными, то было бы совсем другое дело. Но, как известно, белорусский правитель отвергает планы расширения *NATO* и ту роль, которую США играют в мире. А жестко негативное отношение Вашингтона к тому, что в последние годы происходит в Беларуси, всем известно. В связи с предстоящей гуманитарной акцией США как-то более понятными становятся недавние, широко разрекламированные посещения главой белорусского государства ряда медицинских учреждений. Видимо, поэтому о предстоящем визите в Беларусь главкома *NATO* официальный Минск говорить не спешит.

**Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ**

© PDF: Kamunikat.org 2018
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# Крок наперад – два назад

*У рэйтынгу 162 краінаў па індэксе чалавечага развіцця за 2001 год Беларусь перамясцілася з 57 на 53 месца. Аб гэтым сведчыць сёлетняя Глабальная справаздача аб чалавечым развіцці, якую з 1990 года на падставе афіцыйных дадзеных штогод рыхтуе Праграма развіцця Арганізацыі Аб'яднаных Нацый (ПРААН).*



Фота IREX/ProMedia

Высокі індэкс чалавечага развіцця робіць мінчукоў законапаслухмянымі пешаходамі

У Беларусі індэкс рэальна ўзрос толькі на адзін пункт. Прасоўванне ўверх у рэйтынгу стала магчымым толькі таму, што эксперты не ўключылі ў яго краіны, якія летась ішлі наперадзе нас, а ў гэтым годзе па іх адсутнічалі надзейныя дадзеныя. Гэта Антыгуа і Барбуда, Куба, Дамініканская Рэспубліка і Сейшэльскія выспы.

Высокім наш індэкс чалавечага развіцця можна лічыць толькі сярод краінаў СНД, але і гэта толькі пакуль, бо ў выніку эканамічнага росту Расія ўжо сёлета перагнала нас па некаторых паказальніках і паднялася ў рэйтынгу з 62 да 55 месца.

Лідзіруючыя месцы ў рэйтынгу краінаў належаць Нарвегіі, Аўстраліі і Канадзе, сярод краінаў Усходняй Эўропы – Славеніі, а замыкаюць спіс такія краіны, як Нігер і Сьера-Ліёне.

Індэкс чалавечага развіцця мацуецца на трох асноўных паказальніках: сярэдняй працягласці жыцця, узроўнем ахопу насельніцтва адукацыйнымі ўстановамі і памерам унутранага валавага прадукту (УВП) на душу насельніцтва.

Прагрэс па гэтых паказальніках (на адзін пункт) у Беларусі адбыўся толькі па сярэдняй працягласці жыцця – 68,5 гадоў. Сярод краінаў СНД гэта трэцяе месца, наперадзе – Арменія, Грузія і Азербайджан з працягласцю жыцця насельніцтва пад 73 гады. У свеце лідзіруючае становішча належыць Японіі – 80,8 года, а абсалютны аўтсайдэр – Сьера-Ліёне, дзе людзі жывуць па 38,3 года.

Пагоршыўся на адзін пункт узровень адукацыі. Раней Беларусі належала лідзіруючае становішча сярод краінаў СНД, а сёлета мы ўжо падзяляем яго з пяццю краінамі, у тым ліку з Арменіяй, Украінай і Расіяй.

Як сведчыць справаздача ПРААН, самы высокі індэкс сярод краінаў СНД Беларусь утрымлівае выключна за кошт высокага ўзроўню УВП на душу насельніцтва – 6,8 тысячы даляраў, але сёлета па ім Расія нас перагнала – 7,4 тысячы даляраў на душу насельніцтва.

Але на прыкладзе Літвы, у справаздачы ПРААН адзначаецца, што дасягненне высокага індэкса УВП недастаткова для высокага чалавечага развіцця. Літва мае паказальнік УВП на чалавека, які ніжэй за Беларусь, але яна за год паднялася з 52 на 47 месца і трапіла ў групу краінаў з высокім індэксам чалавечага развіцця, галоўным чынам, з-за высокіх узроўняў адукацыі і працягласці жыцця. Як адзначаецца, галоўнае тут, як «рэальна выкарыстоўваецца эканамічны патэнцыял краіны», а гэта ўжо каменьчык у бок нашай эканамічнай стратэгіі развіцця.

Упершыню ў гэтым годзе прадстаўлены індэкс тэхналагічнага развіцця для 72 краінаў, але Беларусь туды не трапіла з-за адсутнасці ўсіх неабходных дадзеных. Індэкс улічвае ўзровень стварэння новых тэхналогіяў і прафесійнай адукацыі насельніцтва, а таксама доступ людзей да дасягненняў тэхнікі.

Так, па колькасці патэнтаў на 1 мільён насельніцтва Беларусь (50 патэнтаў) значна апярэджвае Польшчу (30 патэнтаў) і нават Канаду (31 патэнт), але адстае ад іх у памеры ўзнагароджанняў ад патэнтных і ліцэнзійных пагадненняў. На кожнага тысячнага беларуса прыпадае толькі 100 доляраў, паляка – 600, а канадца – 38.600 доляраў.

Досыць цікавымі ўяўляюцца і іншыя лічбы, прыведзеныя ў справаздачы ПРААН. Па распаўсюджанасці мабільнай сувязі, як і па ўзроўні доступу да інтэрнэта, Беларусь саступае і ўсім краінам Цэнтральнай і Усходняй Эўропы і амаль усім краінам СНД. Па дадзеных за 1999 год, на 1.000 чалавек прыпадала толькі 2 сотавыя тэлефоны і 257 лінейных. Ва Украіне мабільнікаў болей у 2 разы, у Расіі – у 4,5, а ў Эстоніі – у 134 разы. У свеце па колькасці мабільнікаў лідзіруе Фінляндыя (651 тэлефон на 1.000 чалавек), а па колькасці лінейных тэлефонаў – Люксембург (724 тэлефоны).

Маюць доступ у сусветнае Сеціва ў Беларусі толькі 0,3 камп'ютэра на 1.000 насельніцтва (гэта як у Балівіі ці Эквадоры), ці 3 тысячы камп'ютэраў увогуле па краіне. У Расіі такі паказальнік болей у 11 разоў, ва Украіне – у 4 разы, а ў лідэра – Ісландыі – у 774 разы. Як заўважыў кіраўнік прадстаўніцтва ААН на Беларусі Ніл Брунэ, для большасці беларусаў інтэрнэт застаецца недасягальным з-за высокіх коштаў, і гэта пры нізкай якасці злучэння. Гэта значыць, што большасць спецыялістаў абмежаваныя ў доступе да сусветнай навуковай інфармацыі, і павольнае развіццё інфармацыйных тэхналогіяў на Беларусі можа абярнуцца значным адставаннем у развіцці дзяржавы.

**Алена ЛАБАНАВА**

# Гандляры зброяй рукі ўгору не падымуць

У нью-ёркскай штаб-кватэры ААН распачала працу прадстаўнічая канферэнцыя па незаконным гандлі стралковай і лёгкай зброяй. Літаральна з першай хвіліны адкрыліся істотныя рознагалоссі паміж удзельнікамі гэтага форума, у якім бярэць удзел усе 190 краінаў – членаў ААН, адносна забароны продажу аўтаматаў, вінтовак і кулямётаў. У сваёй прамове намеснік дзяржаўнага сакратара ЗША Джон Болтан заявіў, што Злучаныя Штаты выступяць супраць любых мераў, якія могуць адбіцца на законным гандлі ўзбраеннямі і будуць супярэчыць амерыканскай канстытуцыі, якая гарантуе грамадзянам права на валоданне зброяй. Як адзначаюць аглядальнікі, Вашынгтон заняў жорсткую пазіцыю пад ціскам уплывовага збройнага лобі, якое апасаецца, што дзеянні, якія збіраецца пачаць сусветная супольнасць, негатыўна адаб'юцца на гэтым бізнесе. У ЗША дзейнічае багатая і ўплывовая Асацыяцыя ўладальнікаў агнястрэльнай зброі, якая абараняе «святое» права кожнага на адзінку зброі.



У задачы канферэнцыі ўваходзіць выпрацоўка міжнароднай дамовы, якая забараняе несанкцыяваны экспарт гэтага віду ўзбраенняў. Па ацэнках спецыялістаў, цяпер у свеце налічваецца прыкладна 550 мільёнаў адзінак такой зброі, ад якой пачынаючы з 1990 года ў 46 узброеных канфліктах загінулі 4 мільёны чалавек, 90 працэнтаў з якіх цывільныя асобы. Гэта дазволіла намесніку генеральнага сакратара ААН Луізе Флешэт, якая адкрывала канферэнцыю, назваць гэтую зброю «зброяй масавага паражэння». На кожныя 12 чалавек насельніцтва зямлі прыходзіцца аўтамат, кулямёт ці вінтоўка. Па падліках, у Афганістане сёння ёсць 10 мільёнаў аўтаматаў. Па аб'ёме незаконны гандаль лёгкай стралковай зброяй складае 1 мільярд доляраў на год, і ў гэтых адносінах саступае толькі кантрабандзе наркотыкаў.

Са свайго боку еўрапейскія краіны настойваюць на прыняцці дакумента, які будзе насіць абавязковы для ўсіх дзяржаваў характар. Пра гэта нагадаў Луі Мішэль, міністр замежных справаў Бельгіі, які старшынюе цяпер у Еўрапейскім Саюзе. Ён таксама выказаўся за ўвядзенне абавязковай маркіроўкі зброі дзеля таго, каб можна было сачыць за шляхамі яе прапікнення ў зоны канфліктаў.

Назіральнікі лічаць, што 10 дзён канферэнцыі не хопіць, каб істотна зблізіць супрацьлеглыя пазіцыі ўдзельнікаў, адны з якіх мараць пра спакойнае жыццё, іншыя – пра прыбыткі ад продажу аўтаматаў.

**Ільля НАРУШЭВІЧ**

## У павелічэнне зарплаты пры Лукашэнку верыць адзін з пяці

Большасць апытаных сацыёлагамі жыхароў Беларусі не вераць у сур'ёзнае павелічэнне сярэдняй зарплаты ў краіне ў выпадку пераабрання прэзідэнтам Аляксандра Лукашэнкі. Такія звесткі нацыянальнага сацыялагічнага даследавання, праведзенага супрацоўнікамі НІСЭПД.

Апытаныя каля 1.500 рэспандэнтаў 18 гадоў і старэйшыя. Ім, у прыватнасці, было зададзена пытанне: «Ці верыце вы ў магчымасць павелічэння сярэдняй зарплаты да 2006 года ў пяць разоў у выпадку пераабрання А.Лукашэнкі прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь?» Большасць з апытаных – 58 працэнтаў далі адмоўны адказ, 25 працэнтаў – станоўчы. Астатнім 17 працэнтам было цяжка адказаць.

**БелаПАН**

**ЭНЕРГЕТЫКА**

## Калгасы не плацяць за паліва

Запазычанасць сельскай гаспадаркі Беларусі за спажытыя нафтапрадукты можа сур'ёзна паўплываць на забеспячэнне палівам уборкі збожжавых.

Як паведаміла БелаПАН крыніца ва ўрадзе, толькі міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання завінавацілі канцэрну «Белнафтахім» за нафтапрадукты, спажытыя падчас веснавой пасяўной кампаніі, больш за 11 мільярдаў рублёў. Яшчэ 28 мільярдаў павінны прадпрыемствы па нафтапрадуктазабеспячэнні, з якімі не могуць разлічыцца калгасы, саўгасы і іншыя суб'екты гаспадарання.

Выкліканы ў выніку ўсіх гэтых абставінаў недахоп сродкаў не дазваляе «Белнафтахіму» закупляць нафту ў Расіі. Разам з тым, згодна з пастановай урада, у перыяд са жніўня па кастрычнік канцэрн абавязан пастаўць сельскай гаспадарцы 280 тысяч тонаў дызельнага паліва, 85 тысяч тонаў аўтабензіну і 10 тысяч тонаў розных відаў масла і змазак.

**Вікторыя МЯЖЫЕВА**

**МЕДЫЦЫНА**

## Праблема сухотаў застаецца

У Беларусі, як і ва ўсім свеце, працягваецца рост захворвання на сухоты, ад якіх штогод на планеце паміраюць больш за 3 мільёны чалавек. Пра гэта паведаміў галоўны эпідэміёлаг міністэрства аховы здароўя Беларусі Анатоль Кажамякін.

У Беларусі, паводле звестак на 1 студзеня 2001 года, на ўліку знаходзіліся больш за 20 тысяч хворых на туберкулёз; штогод на яго хварэюць каля 5 тысяч чалавек. У 1998 годзе ў Беларусі ад туберкулёзу памерлі 702 чалавекі, у 1999 – 877, у 2000 годзе – 730 чалавек.

Па словах Кажамякіна, у 1999 годзе была прынятая і ўхваленая дзяржаўная праграма па туберкулёзе на 2000-2002 гады. У ёй выкладзены план мерапрыемстваў, які ўключае санітарна-аздараўленчыя і прафілактычныя захады, дыягностыку захворвання, выяўленне туберкулёзу, мерапрыемствы па лячэнні, рэабілітацыі хворых і іншыя.

Як зазначыў Анатоль Кажамякін, у сучасных умовах галоўным у барацьбе з гэтым захворваннем з'яўляецца своечасовае яго выяўленне. Сухоты вылечваецца ў 90% выпадкаў пры своечасовым прызначэнні лячэння.

**Маша ПЯТРОВА**

**ЭКСПРЭС**

# Прогнозы, долги, расчеты

### Стандартное мясо — стандартному гражданину

Более половины белорусских предприятий из числа проверенных госнадзором в нынешнем году имели нарушения стандартов производства, реализации мяса и мясных изделий. Как сообщил начальник отдела государственного надзора за стандартами Госстандарта Виктор Нарыгин, было проконтролировано качество продукции более 170 предприятий различной формы собственности. Проверялась безопасность мяса и мясных изделий, их физико-химические показатели (содержание влаги, белка, жира, доля консервантов), а также маркировка, срок годности, наличие сертификата соответствия. За реализацию нестандартной продукции с предприятий взысканы штрафы на сумму более 6 миллионов 600 тысяч рублей.

### Растет ВВП в виде запасов

В прошлом месяце запасы готовой продукции на складах белорусских промышленных предприятий достигли 67,9% от среднемесячного объема производства. Для сравнения: в мае запасы составляли 65,4%, в апреле — 60,3%, в марте — 56,1%. Самый высокий показатель был в январе 1999 года (85,9%), когда промышленность переживала последствия российского финансового кризиса. Наибольшая затоваренность наблюдается на складах предприятий машиностроения и металлообработки (119% к среднемесячному объему производства), легкой промышленности (114,5%), лесной, деревообрабатывающей и целлюлозно-бумажной (85,3%).

### Дожились до уровня Кореи

По словам директора отдела Беларуси и Украины Всемирного Банка Люка Барбоне, сегодня в Беларуси, по сравнению с другими странами мира (исключение составляет только Северная Корея), — наиболее тяжелые условия для регистрации малых и средних предприятий. По этой причине с 1994 года по 2001 год количество таких предприятий в Беларуси не увеличилось, в то время как в мире отмечается их бурное развитие. На прошлой неделе Люк Барбоне посетил Брестскую область, где на местном уровне продолжился второй раунд дискуссий по вопросам стратегии сотрудничества Всемирного Банка и Беларуси. Финальный раунд обсуждения планируется в октябре этого года, «после президентских выборов в вашей стране», уточнил Люк Барбоне.

### Наше пиво пьянит и «чужие» головы

Более чем в два раза возрос экспорт сортов отечественного пива за первых пять месяцев нынешнего года по сравнению с аналогичным прошлогодним периодом. Об этом сообщил начальник главного производственно-технологического управления концерна «Белгоспищепром» Александр Гончаренко на встрече с журналистами 28 июня. По словам Александра Гончаренко, основными производителями и экспортерами нашего пива являются пивзаводы «Крыница», «Аливария», а также ОАО «Лидское пиво».

**Андрей КАРПОВИЧ**

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

# Храм науки в лучах SS

## Нордический опыт для лиц славянской национальности

*В те самые дни, когда Александр Лукашенко в Брестской крепости говорил о вероломном нападении гитлеровской Германии на СССР, о 30 миллионах жертв, которые советский народ положил на алтарь победы над фашизмом, о 4 миллионах граждан Беларуси, сгинувших в то лихолетие и т. п. и т. д., в главном здании НАН РБ, где в вестибюле сидит милиционер, чтобы ограждать ученых мужей от невежественных посетителей, на левую руку от него в книжном киоске любое лицо могло купить книжное издание Управления образования ГлавногоУправления СС Третьего рейха.*

Методичка, изданная в Берлине в 1940 году с грифом *«Только для руководителей»*, называется **«Расовая гигиена и демографическая политика в национал-социалистической Германии (Биологические основы и их осмысленное применение для сохранения и приумножения нордической крови)»**. Она переведена на государственный язык России и Беларуси и выпущена в оборот московским издательством **«Русская правда»** в 2000 году.

Зная, как быстро, рьяно и жестко наши специалисты внутренних дел изымают спецвыпуски оппозиционных газет, ограничивают их тиражи, а людям, которые выходят в пикеты с вопросом к правительству «Где Завадский?» или «Где Гончар?», заламывают руки, бросают в изоляторы, наказывают штрафами, поневоле приходится дивиться, что за распространение **неоспоримо нацистской литературы** не хватают, не наказывают, не помещают в изолятор, не конфискуют. А наоборот – **разрешают**. Хотя вроде бы есть основания не разрешать. Так называемая «Русская правда» в издательской аннотации этого утвержденного Гимлером издания сообщает читателю:

«Перед Вами уникальный исторический документ, призванный пролить свет на некоторые секреты внутренней политики Третьего Рейха, **часть из которых не помешало бы позаимствовать и нашим современным властителям, которым не безразлично будущее своего народа**».

Поскольку «уникальный документ» привезен в Беларусь и продается в уважаемом научном учреждении, то, видимо, предназначается и всей вертикали **белорусских «современных властителей»** для заимствования идей, методов и приемов. Характер издания не научный, издатель честно сообщает, что «Расовая гигиена» издана **«для широкого круга читателей»** (тираж 10.000 экземпляров). Сомнительно, чтобы таким солидным тиражом «гигиена» выходила «для руководителей» СС в 1940 году. Иначе говоря, «документ» не просто «сохранили», но и приумножили» российские преемники культа чистоты крови.

При возникающих возмущениях граждан фашистские публикации у нас посылают на «научную экспертизу», которая находит «научный характер», не позволяющий конфисковать, оштрафовать, наказать. Чтобы избавить наш Госкомпечати от этой формальности в отношении «Расовой гигиены», хочется напомнить, что идеи и практика «приумножения нордической крови» проходили экспертизу в 1939 – 1945 годах и заключение вынес Нюрнбергский процесс. Хочется надеяться, что в год 60-летия начала Отечественной войны властители у нас в Беларуси все же не решатся оспорить заключение того Трибунала.

Чтобы читатель не усомнился в нацистских побуждениях издателей «документа», приведу небольшую цитату из предисловия:

«Сейчас чрезвычайно важно сделать правильные выводы из данной работы. Сегодня это актуально как никогда: ведь в России смертность уже давно превышает рождаемость... Китайцы на Дальнем Востоке, армяне в Краснодарском и Ставропольском краях, в Кремле — сами знаете кто... Наша изначально Русская Белокаменная Москва сейчас вообще стала напоминать смесь Тель-Авива с Ереваном... Теперь ответьте: разве это не демографический геноцид?»

Некто Александр Аратов, главный редактор «Русской правды», специально выделяет полужирным шрифтом утверждение: **«Положение Русского Народа иначе как геноцидом не назовешь»**. По словам некоторых наших властителей, население Беларуси — это 50 процентов русских и четверть смешанных с русскими через брак. Так что опыт Охранного отряда (СС) и предлагается в качестве спасительного средства от «смеси Тель-Авива с Ереваном». Как практически избавлялся от этой смеси в годы войны **«союз немцев нордического типа, отобранных по особым критериям»**, напоминают тысячи братских могил, разбросанных по всей Европе. Это евреи, цыгане, вообще *«метисы как лишенные физической и душевной гармонии»*, восточные народы, склонные к *«плодовитости»*, поскольку *«плодовитость у наследственно одаренных ниже, чем у наследственно неполноценных»*. Методичка Главного Управления СС о необходимой чистоте нордической крови, естественно, пересыпана ссылками на рейхсфюрера СС, на Гитлера и цитатами из последнего, статистикой огромного прироста восточных народов по сравнению с германцами и т. д. с указанием на пользу стерилизации «дефективных». В 1941 году в Минске «дефективные» в Новинках прошли «стерилизацию» в бараке, куда подавались выхлопные газы из грузовиков.

Могильный запах этого расистского сочинения обеспечен именно ее эсэсовским происхождением и предназначением. Помещены в книгу и цитаты, не имевшие в ней места в 1940 году, например, английского премьера Дизраели (помеченного в скобках – еврей): «***Всякая раса, беззаботно перемешивающая свою кровь с чужой, обречена погибнуть***».

На фоне безнаказанно распространяемых, то есть привеченных властями, расовых изданий обретают тревожное значение слова совместного заявления А.Лукашенко и московского патриарха, сказанные в совместном «Обращении» накануне празднования Дня освобождения Беларуси от захватчиков «о славянских народах», которые ценой жизни миллионов спасли мир. Забвение про участие в спасении мира неславянских народов придает «Обращению» безусловную биологическую окраску. Но авторы обращения и есть «наши современные властители» – исполнительной власти и, так сказать, дум. Понятно, что издание *таких* книг, дозволенность их транспортировки и продажи в Беларуси, забвение того, чем была СС в реальности, какова оказалась борьба эсэсовцев против «плодовитых» народов, не отягощенное ответственностью перед законом распространение, благоприятствуют «идеологической учебе» отрядов Русского национального единства, славянофилов и ксенофобов на нашей земле. Для страны, которая проводит парады в честь победы над фашизмом, это позорное явление.



Фота Ул. ШЛАПАКА






ПЕРВОИСТОЧНИК

РАСОВАЯ ГИГИЕНА
И
ДЕМОГРАФИЧЕСКАЯ ПОЛИТИКА
В
НАЦИОНАЛ-СОЦИАЛИСТИЧЕСКОЙ
ГЕРМАНИИ

(Биологические основы и их осмысленное применение для сохранения и приумножения нордической крови)

Разработка и издание:

Главное Управление СС
Управление образования.

ТОЛЬКО ДЛЯ РУКОВОДИТЕЛЕЙ

1940

Позорно также, что книжный киоск в Национальной Академии наук, гуманитарные институты которой десятки лет исследовали адский феномен фашизма, принадлежит издательско-книготорговой фирме под названием «Лучи Софии», то есть «Лучи мудрости», и на ее книжных столах книги о православии оказались в соседстве с эсэсовскими изданиями и целой библиотекой откровенно антисемитских сочинений.

Почему руководство НАН РБ закрывает глаза на такое издевательство над своим учреждением — бог весть, может академикам это нравится (торжество плюрализма!). Но вот что странно. При равнодушии к торговле в своем храме науки фашистской литературой руководство вроде бы находило доводы против возведения памятника Франтишку Скорине вблизи здания с колоннадой, поскольку «масштаб не соответствует», а значение белорусского первопечатника преувеличено. Неужели, по мнению ответственных ученых, положительное значение расового опыта СС было уменьшено победителями, и сейчас восстанавливается «историческая справедливость».

Вот такие параллели наблюдаются в годовщину 60-летия обороны Брестской крепости от нордических воинов.

В книге «Расовая гигиена» подчеркивается, что «Немецкая форма борьбы — атака».

Такое ощущение, что наши административные и идеологические властители отступают перед атакой нынешних последышей СС, как это случилось в драматическом июле 1941 года.

**Валентин СКАМОНТОВИЧ**

# Алексий II выручал Лукашенко



*Последствия посещения Патриархом Московским и всея Руси Алексием II Беларуси с 23 по 27 июня весьма значительны для взаимоотношений Кремля и Патриархии.*

В заключительный день у монумента Дружбы на границе трех славянских государств произошла очередная встреча Алексия II и президента Александра Лукашенко, которая послужила поводом для подписания Александром Лукашенко и Алексием II совместного обращения, в котором говорится, что: «многие честные исследователи и простые граждане связывают свои надежды на духовно-нравственное возрождение западной цивилизации в первую очередь со славянским миром» и что «примером славянского братства может служить союз Беларуси и России».

Достопримечателен тот факт, что Патриарх подписал это политическое заявление совместно с Александром Лукашенко. В Беларуси сейчас разгорается борьба за президентский пост. Объединение с Россией — это один из основных предвыборных козырей Александра Лукашенко.

Визит Патриарха в Белоруссию имеет для Александра Лукашенко не меньшее значение, чем для Леонида Кучмы приезд на Украину Папы Римского. Уже то, что во время визита он появлялся рядом с Патриархом, добавляет ему дополнительные голоса в предвыборную копилку. Что же тогда говорить о совместном заявлении президента и Патриарха, которое носит наполовину программный, наполовину предвыборный характер.

Еще большее значение придает этому совместному обращению тот факт, что Патриарх первым из крупных персон российского истеблишмента в открытую выступил в поддержку нынешнего президента Белоруссии. То, что Лукашенко поддержка Москвы нужна, как воздух, ясно. Также замечено, что Кремль не торопится эту поддержку оказывать, то ли еще не определившись в своих симпатиях в предвыборной гонке, то ли стараясь добиться от Лукашенко каких-либо политических уступок. В этой ситуации объятия с Патриархом для Лукашенко просто бесценны. Даже если официальный Кремль не выступит с поддержкой белорусского президента в открытую (это, конечно же, мало вероятно), то Лукашенко вполне может говорить, что у него есть благословение власти духовной.

Своим заявлением Алексий II резко снизил пространство политического маневра для российской власти перед выборами в Белоруссии, помог сверхудачно начать предвыборную кампанию Александру Лукашенко.

Что же могло подвигнуть Алексия II на столь решительный шаг? Ведь ранее Патриарх четко придерживался принципа «Богу Богово, Кесарю кесарево» и не делал заявлений, идущих вразрез с государственным курсом.

Можно сколь угодно долго рассуждать о моральных аспектах протестов православных против приезда папы на Украину. Но если бы Кремль предпринял определенные дипломатические усилия, то визит главы Римско-Католической Церкви хотя и не был бы отменен или отложен на неопределенно долгий срок, чего так добивалась РПЦ, но по крайней мере был бы подготовлен, согласован и принес бы России и православию немалую пользу.

Возможно, руководство РПЦ расценило это поведение Кремля не самым лучшим образом, и в сложившейся ситуации РПЦ захотелось продемонстрировать Кремлю, что к голосу Церкви лучше прислушиваться. Последствия этого мы, несомненно, увидим в ближайшее время.

**Алексей КАЗАНКИН**
**Ng.ru**

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



## Дактары супраць акулы

У мінулую пятніцу ля ўзбярэжжа штата Фларыда двухметровая акула атакавала 8-гадовага хлопчыка Джэсі Арбагаста. На дапамогу падлетку кінуўся яго дзядзька, аднак, на гэты момант трагедыя ўжо адбылася – акула адкусіла хлопчыку руку. Рэйнджэр Кляйн, які адразу прыбыў на месца здарэння, застрэліў акулу чатырма стрэламі з пісталета 9-га калібра. Адразу пасля гэтага з пашчы драпежніцы дасталі аднятаю ёй руку. У адным з шпіталяў Фларыды амерыканскія хірургі правялі тэрміновую аперацыю – прышылі адкушаную акулай правую руку. Аднак, стан хлопчыка пакуль не дае падставаў для супакаення. Джэсі страціў шмат крыві, і з гэтай прычыны сур'ёзна пашкоджаныя практычна ўсе важныя органы. Асабліва моцна траўміраваныя ныркі і мозг хлопчыка. Пасля аперацыі па прышыванні рук яго перавялі ў другі шпіталь, дзе быў апарат «Штучныя ныркі». Мозг Джэсі знаходзіцца ў стане, блізкім да глыыбокага сну і пакуль яшчэ рана казаць, наколькі ён пашкоджаны. Але падставы для аптымізму не страчаныя. У адказ на пытанні хлопчык ужо пачаў ківаць, а адразу пасля аперацыі гэтага дактары не назіралі. Па словах хірургаў, Джэсі Арбагаст наноў зможа актыўна карыстацца сваёй правай рукой праз годпаўтара.

**Агнета КВЯТКЕВІЧ**

## Англійскі вопыт варты пераймання

З 1 студзеня 2003 года кіроўцы машын у Вялікабрытаніі будуць плаціць пошліну памерам 7 долараў за праезд у цэнтральную частку Лондана. Рашэнне пра гэта ўваходзіць у план мясцовых уладаў па скарачэнні аўтамабільнага патока тна 15 працэнтаў. Па словах мэра Лондана Кена Лівінгстона, на атрыманыя ад гэтага грошы (мяркуюць, што гэта складзе 282 мільёны долараў штогод) плануецца мадэрнізаваць гарадскую сістэму дарожнага руху, якая зараз знаходзіцца ў гаротным стане.

Рэгістрацыя нумароў аўтамашын будзе праводзіцца ў транзітным агенцтве Лондана. Аплата мыта кіроўцамі можа быць здзейсненая розным чынам – ад звычайнай да Інтэрнета. Апра-



ча таго, аплаціць уезд кіроўцы змогуць і ў спецыяльна прызначаных магазінах. Сачыць за рухам па гародзе ў перыяд з 7 раніцы да 19 вечара будуць відэакамеры, парушальнікаў чакае штраф да 112 долараў. Ад уплаты новай пошліны вызваляюцца матацыклы, таксі, аўтобусы, карэты хуткай дапамогі, а таксама кіроўцы-інваліды. Для жыхароў цэнтральнага раёна Лондана прадугледжваецца скідка да 90 працэнтаў.

Ініцыятыва лонданскай мэрыі выклікала станоўчы водгук ва ўсіх гарадах, дзе гістарычныя раёны церпяць ад націску аўтамабілістаў і адпаведнай загазаванасці. Увядзенне спецыяльнай аплаты магчыма скароціць паток машын. Асабліва турыстаў.

Відавочна, што такое рашэнне было б варта ўзяць на ўзбраенне і нам. У перўую чаргу, Мінскаму гарвыканкаму, які сёння насуперак здароваму глузду і закону літаральна запаўняе гістарычны цэнтр сталіцы аўтастаянкамі, ствараючы сапраўдны аўтагаорад там. Дзе машын не павінна быць зусім. У нас з цэнтру выціскаецца чалавек. Хочацца верыць, што англійскі вопыт знойдзе з цягам часу пераймальнікаў і на Беларусі, калі ў нашых гарадскіх уладаў пабольшае розуму і адказнасці перад простымі людзьмі.

**Юры ФІЛІПОВІЧ**

**ФУТБОЛ**

## «Славія» не саступіла рыбакам...

Хто б мог падумаць, что чэмпіён Беларусі мазырская «Славія» так няўдала згуляе ў сваім стартавым паядынку Лігі чэмпіёнаў супраць фарэрскіх рыбакоў, якія і мяч бачаць мабыць па вечарах, пасля працы на моры. Здавалася, усё перажыў беларускі футбол. Прайгравалі мы на ўзроўні галоўных камандаў андорскім паштальёнам ды парыкмахерам, «лушчылі» нас іншыя... Думалі, хопіць. Наступіў, нарэшце, «залаты век» беларускага футбола. Амаль аднoй нагой сталі ўжо на парозе чэмпіянату свету (і гэта пры наяўнасці толькі аднаго нападаючага ў зборнай (!), «распластаўся» над мінскім «Дынама» ў яшчэ адным еўрапейскім Кубку Ізраіль ды Люксембург. І на табе!

0:0 — вось так завяршылася гульня гаспадароў з вельмі амбіцыёзнымі прафесіяналамі – славянамі. Добра хоць не прайгралі сціпламу клубу, які нібы выйшаў з марского віру, у складзе якога заяўлены толькі чатыры не тутэйшыя жыхары, тры палякі ды югаслаў, а то з'явілася б падстава для добрага жарту, накшталт, «тры палякі, танкіст і сабака», якія ў мастацкім фільме выйгралі вайну... Не бачылі мы, на жаль, тэлетрансляцыі дзівоснай сустрэчы, не чулі радыёрэпартажу, якіх не было, таму з падрабязнасцямі прыйдзецца пачакаць. Хаця некаторыя, вельмі сумныя дадзеныя для мазыран мы маем. 24 вуглавыя ўдары падалі яны на вароты сапернікаў, мелі болей 10 стопрацэнтовых магчымасцяў адкрыць лік... Клуб Улады Петравіча вернецца дамоў не раней як праз дзень пасля нечаканай нічыёй. Але хто дакладна адкажа на ўзнікшыя пытанні? Як вядома, перад самай паездкай на Фарэры ў «Славіі» быў уведзены своеасаблівы «маратoрый» на сувязь з прэсай, гульцам катэгарычна забаранілі ўступаць з ёю ў размоўныя кантакты. Усё адбылося пасля амаль «гвалтоўнага» адлучэння ад калектыву, ад сваёй працы прафесіянальнага футбаліста, лепшага снайпера мінулага сезона рэспублікі, лідэра атак мазыран, члена нацыянальнай зборнай, таго самага адзінага нападаючага ў яе складзе Рамана Васілюка. Як бачым, ён бы вельмі спатрэбіўся ў гэтым злашчасным паядынку з рыбакамі. Такі «пчаўчок» па носе застаецца ў памяці назаўжды. Што яшчэ можна дадаць? Нічога. Як той казаў, няма словаў, адны толькі думкі...

**Уладзімір ДАЎЖЭНКА**

# Йедвабне – Новое Имя Холокоста

Через пятьдесят пять лет после массового убийства евреев в Йедвабне, в Польше появилось описание этого трагического события, сделанное профессором Яном Гроссом. Книга эта потрясла польскую общественность как никакая другая за последние пятьдесят лет. Спрашивается, почему? Профессор Гросс доказал в своей книге, что резня евреев в Йедвабне была устроена не немцами при содействии поляков, а самими поляками при, возможно, небольшом содействии с немецкой стороны.




Почему же эта правда так потрясла поляков? Еще до появления книги Гросса поляки охотно признавались во многих грехах, совершенных в отношении евреев во время немецкой оккупации. Одни поляки шантажировали евреев, другие использовали их в материальных интересах, некоторые доносили на них в гестапо или в отдельных случаях даже убивали. Но очень мало кто готов был признать, что они сотрудничали с немцами в деле уничтожения еврейского народа.

В этом отношении поляки считали себя лучше остальных жителей Европы. Однако свидетельства о событиях в Йедвабне, равно как и об убийствах совершенных в находящихся по соседству городах Васоже и Радзиёве, окончательно доказывают тот факт, что подобное сотрудничество, хоть и на географически небольшой территории, все же имело место.

Потрясение, произведенное книгой профессора Гросса, было очень болезненным еще и оттого, что на протяжении 200 лет поляки считали себя жертвами насилия со стороны других народов. Они же в свою очередь никогда никого насилию не подвергали, или просто полагали, что не подвергали, пока профессор Гросс не показал события в Йедвабне во всей их неприглядности.

Принимая во внимание историю антисемитизма в Польше, особенно в годы между двумя мировыми войнами, когда после 100-летнего разделения Польша вновь обрела независимость, и имели место попытки создания этнически унитарного государства, преступление в Йедвабне не должно вызывать удивления. В конце концов, во время немецкой оккупации многие поляки считали, что у Польши есть два врага: внешний враг в лице немцев и внутренний враг в лице евреев. И именно безграничному презрению Гитлера по отношению к полякам мы обязаны тем, что он не попытался намеренно, посредством обещаний и поощрений, обеспечить себе их массовую поддержку и сотрудничество в вопросе уничтожения евреев. Так что если бы не ложная гордость и глупость Гитлера, у нас, возможно, было бы еще несколько десятков Йедвабне.

После того, как стала известна правда о Йедвабне, в Польше произошел раскол общественного мнения. Сторонники правых сил и наиболее националистически настроенные граждане либо отрицали участие поляков в бойне в Йедвабне, либо пытались сократить масштабы этого участия, заявляя, что если кто из поляков там и был, то только бандиты и асоциальные элементы. Или же они искали «смягчающие обстоятельства», указывая на предполагаемый вред, причиненный полякам евреями во время недолгой советской оккупации Йедвабне. Противоположный лагерь, меньший по численности сторонников, придерживается больше левого крыла. Они признают действительность заключения профессора Гросса и выражают сожаление и печаль по поводу событий в Йедвабне. Раскрытие правды о бойне евреев в Йедвабне, считают они, дает шанс очистить память людей от мыслей об оккупации, а также является прекрасным стимулом для борьбы с антисемитизмом в современной Польше. Честное соотнесение угрызений совести и стремления что-нибудь исправить, говорят эти люди, может только помочь Польше построить демократическое общество и улучшить свой имидж.

Что касается католической церкви, 10 июля 1941 года духовенство в Йедвабне не предприняло ничего для того, чтобы не позволить верующим принять участие в избиениях. И сегодня отношение церкви к событиям в Йедвабне остается неопределенным. Местный епископ из Уомжи, Станислав Стефанек, считает все происходящее заговором против Польши. Примас Польши, Юзеф Глемп, не отрицал, что поляки принимали участие в этом преступлении, но попросил евреев также извиниться перед поляками за предположительное причинение им вреда во время советской оккупации.

Епископат решил, однако, принести извинения евреям за события в Йедвабне. Не дожидаясь 60-й годовщины трагедии в Йедвабне и не желая приносить извинения за преступление на месте избиений вместе с президентом Польши, 27 мая духовенство отслужило мессу покаяния в церкви Всех Святых в Варшаве, находящейся недалеко от варшавского гетто времен войны. И хотя только одна третья епископата приняла участие в церемонии, такой акт раскаяния очень важен, ибо никто никогда еще не видел польских епископов, коленопреклоненно молящих о прощении за грехи, совершенные в отношении евреев.

А имеет ли смысл вообще вспоминать события шестидесятилетней давности произошедшие в Йедвабне - маленьком городке, название которого даже не было известно полякам до появления книги Гросса?

Такой вопрос равносилен сомнению в том, имеет ли вообще смысл помнить о Холокосте.

Незнание прошлого приносит свои «плоды», позволяя людям легче повторять прошлые ошибки в настоящем. Гуманность подобна системе сообщающихся сосудов, где знание прошлого формирует настоящее и будущее. Более того, имеет смысл говорить о Йедвабне не только в Польше, но и вообще везде, поскольку это преступление раскрывает новую темную сторону того, что может сделать человек.

### Резня в Йедвабне

10 июля 1941 года в небольшом городке Йедвабне были истреблены евреи. Эта резня была непохожа на другие известные массовые убийства, происходившие в Польше во время Второй мировой войны. В тот день еврейское население Йедвабне было согнано в большой сарай и заживо сожжено там своими соседями-поляками.

Город Йедвабне с населением в 2500 человек, 1500 из которых были евреи, до 22 июня 1941 года находился в советской зоне недалеко от границы. На следующий день после нападения Германии на Советский Союз немецкие войска вошли в Йедвабне. Множество евреев во всем городе было убито тотчас же, как и на других участках Восточного Фронта, специальные подразделения немецкой полиции проводили массовые истребления евреев.

Эта резня никак не могла произойти без разрешения с немецкой стороны. Скорее всего, она поощрялась и местной жандармерией. Однако убийства совершались не кем иным, как жителями Йедвабне и близлежащих деревень. Некоторые из виновных в бойне в Йедвабне общим числом в 22 человека были привлечены к суду в мае 1949 за содействие фашистским захватчикам.

**Ян ГРОСС, профессор политологии и Евроведения Университета Нью-Йорка (автор международного бестселлера «Соседи»)**

Ибо бойня в Йедвабне произошла не в концентрационном лагере за колючей проволокой, а в маленьком небогатом городке, где все друг друга знали, видели друг друга каждый день и годами, а то и веками жили бок о бок друг с другом. События в Йедвабне раскрывают другую сторону Холокоста: убийство соседей, совершенное соседями. Они служат примером того, как преступление может взращиваться в повседневной жизни, отравляемой антисемитизмом.

Во время церемонии в Варшаве 27 мая епископ Станислав Гадек во вступительной молитве к литургии упомянул Йедвабне наряду с Аушвитцем и другими местами массового уничтожения. И это правильно, поскольку Йедвабне – это новое имя Холокоста.

**о. Станислав МУШАУ, доктор юриспруденции, бывший секретарь «Комиссии по Диалогу с Иудаизмом» польского апископата, бывший секретарь Папы Иоанна Павла II**

# Ці збудуцца прагнозы?

У гэтыя дні ў Маскве праходзіць 112 сесія Міжнароднага алімпійскага камітэта, сярод шэрагу разгледжаных пытанняў на якой, безумоўна, галоўнымі стануць два: выбары новага прэзідэнта МАК і сталіцы Алімпіяды-2008. Склалася так, што ў абодвух выпадках колькасць прэтэндэнтаў роўная — па пяць. І вось сёння ўвечары будзе названы горад, які і прыме галоўныя спаборніцтвы свету праз адзін алімпійскі цыкл. Пекін, Таронта, Парыж, Стамбул, Осака — кожны з гэтых мегаполісаў з рожзных кантынентаў марыць аб перамозе, мае свае плюсы і мінусы, настойліва змагаецца за кожны голас. Пакуль большая частка спецыялістаў разважае пра перавагу сталіцы Кітая, але, калі ўспомніць усю гісторыю гэткіх выбараў, дык было шмат прэцэдэнтаў, калі галоўны прэтэндэнт нечакана саступаў і ўладальнікам ганаровага звання станавіўся ў выніку іншы. Мне пашанцавала пабываць у складзе невялічкай дэлегацыі спартыўных журналістаў нашай рэспублікі некалькі гадоў таму ў швэйцарскай Лазане ў час выбараў месца правядзення Алімпійскіх гульняў на 2004 год. Як вядома, перамагла тады ва ўпартай барацьбе Грэцыя, дзе і пройдуць чарговыя летнія гульні, хаця да апошняй хвіліны яўным фаварытам зямлю старажытнай Элады не лічыў ніхто. Могуць адбыцца нечаканасці і зараз, хаця шансаў на перамогу больш за ўсіх мае, па звесткаў замежнай прэсы, зараз сталіца Паднябеснай. Беларускі НАК упэўнены ў гэтым на ўсе 100 працэнтаў, таму што будзе падтрымліваць нашых братоў (ледзь не напісаў — славянаў) кітайцаў. Такі выбар сярод пяцёркі менавіта Пекіна беларусамі нікога не здзіўляе. Прэзідэнт Нацыянальнага алімпійскага камітэта, ён жа і прэзідэнт нашай краіны, за сем гадоў свайго праўлення пабываў за мяжой у дзяржавах, якія можна пералічыць на пальцах адной, ці самае более, дзвюх рук... Ён не візітаваў мноства сталіц і проста гарадоў, таму што не меў на гэта магчымасці. А вось Кітай добра ведае не па карцінках і тэлевізары, у памяці нешта адклалася, таму вось і вымушаны падтрымліваць менавіта яго. На самай справе, не аддаваць жа свой голас, напрыклад, за японскую Осаку, добра памятаючы, што калі ён на два тыдні злётаў на зімовую Алімпіяду ў Нагана пакатацца на лыжах, дык ніхто з афіцыйных асобаў гэтага візіту нават і не заўважыў. Ці не ганьба гэта? Таму здарылася, як з тым комплексным абедам: выбіраць няма чаго, а есці трэба. А каб наш далёкі ды ўсходні сябра не сумаваў і не сумняваўся ў нашым братэрстве, дык НАК Беларусі звярнуўся з афіцыйнай прапановай да членаў МАК, у якой выказвае падтрымку Пекіну і вельмі — вельмі заклапочаны, што (цытую) «разгорнута кампанія па аказанні ціску на членаў МАК, аж да пагроз фізічнага ўздзеяння, з мэтай вымусіць іх не галасаваць у падтрымку Пекіна». Вось як!

Сама сістэма выбараў будзе вельмі складанай, хаця ўсіх запэўніваюць аб іх празрыстасці, аб'ектыўнасці і гэтак далей, але пытанні заўжды існуюць і застаюцца...Мяне, дарэчы, зацікавіла, а хто паедзе прадстаўляць Беларусь у Маскву на час выбараў. Горада і прэзідэнта. (Я маю, канешне, на ўвазе — прэзідэнта МАК).

Другое, якраз вось гэтае самае пытанне будзе вырашанае ў панядзелак. Хуан Антоніо Самаранч, кіраўнік Міжнароднага Алімпійскага камітэта, нібы Леанід Ільіч, надоўга, на 21 год замацаваўся ў шаноўным крэсле і толькі вось зараз іспанскі маркіз запрасіўся на адпачынак. Я незнарок прыгадаў былога генсека, таму што абраны сябра былога СССР на пост прэзідэнта быў менавіта ў Маскве, падчас Алімпіяды. Відаць, узгуляла настальгія, іспанскі ідальга сам папрасіў правесці цырымонію інаўгурацыі новага ўладальніка самай магутнай, спартыўнай імперыі ізноў у Белакаменнай.

Вось імёны пяцёркі саіскальнікаў гэтай найпрэстыжнай ва ўсім свеце кароны: карэец Кім Ун Ен, канадзец Рычард Паўнд, венгр Пал Шміт, амерыканка Аніта Дэфранц і бельгіец Жак Рогс. Апошняга ў спісе і будуць падтрымліваць беларусы ў час галасавання. Па якіх матывах — можна толькі здагадвацца. А можа толькі таму, што масье Жак з'яўляецца кіраўніком Еўрапейскага алімпійскага камітэта.

**Уладзімір ДАЎЖЭНКА**

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1732 Нумар падпісаны ў друк 12/07/2001 (15:00) Наклад – 9.920

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018